Выдавец:
Прыватнае прадпрыемства «Дарога на Вільню плюс»,
пасв. №391053932, выд. 12.10. 2009 г. Глыбоцкім РВК.
Перыядычнасць – 1 раз на тыдзень, дзень выхаду – чацвер.

Штотыднёвая газета

vglybokaye@tut.by

# Вольнае Глыбокае

Выдаецца са снежня 1994 года | 10 (518) 11 сакавіка 2010 года | Кошт **свабодны**



дзённа й ночна нумар 166
абвесткі з хатняга тэлефона ў «ВГ»

# Àðõåîëàã³ äàêàçàë³: Ïîëàöê ñòàðýé, ÷ûì ìåðêàâàëàñÿ



■ Дзіяна Курыла, БЕЛТА

**Сенсацыйная знаходка археалагічнай экспедыцыі Інстытута гісторыі НАН Беларусі дазваляе сцвярджаць, што Полацк існаваў ужо ў першай палове IX стагоддзя.**

Пра гэта паведаміў карэспандэнту БЕЛТА кіраўнік экспедыцыі кандыдат гістарычных навук навуковы супрацоўнік Інстытута гісторыі НАН Беларусі Марат Клімаў.

Упершыню Полацк згадваецца ў легендарнай «Аповесці мінулых гадоў» пад 862 годам, калі «аваладаў усёй уладай адзін Рурык і стаў раздаваць мужам сваім гарады: таму Полацк...» Аднак матэрыяльных пацверджанняў – рэштак культурнага пласта з артэфактамі, па якіх можна было б пацвердзіць ці аспрэчыць гэту дату, да цяперашняга часу знайсці не атрымоўвалася.

Падчас археалагічных раскопак на тэрыторыі старажытнага гарадзішча, першапачатковага цэнтра горада, якія праводзіліся ўлетку 2009 года, у пласце пажарышча былі выяўлены 4 фрагменты арабскіх срэбных манет – дырхемаў. Манеты мелі пашкоджанні, аднак пры дапамозе нумізмата Святаслава Куляшова, супрацоўніка Эрмітажа (Санкт-Пецярбург), надаўна была ўсталявана дата чаканкі манет – 800–825 гады.

«Такім чынам, манеты засведчылі, што Полацк на некалькі дзясяткаў гадоў старэй, чым прынята лічыць паводле першага летапіснага згадвання», – адзначыў Марат Клімаў.

Археалагічная экспедыцыя працавала ў Полацку ў адпаведнасці з Комплекснай праграмай развіцця горада на перыяд да 2012 года. У 2010 годзе працы будуць працягнуты, а да 1150-годдзя горада навукоўцы збіраюцца выдаць працу пра свае знаходкі падчас раскопак.

Пастаўскі раён

# Òóò âàì íå Å¢ðîïà

■ Кастусь Александровіч

**Самы заходні раён вобласці Пастаўскі разам з суседнім Браслаўскім вось ужо некалькі апошніх гадоў адзін з самых спакойных рэгіёнаў па крымінагеннай абстаноўцы.** Аднак і тут не варта расслабляцца людзям, бо пераважаюць, як у цэлым па краіне, у хроніцы злачынстваў крадзяжы. Вось і жыхар суседняй Мінскай вобласці прыехаў у Паставы на сваім дарагім джыпе. На сваю бяду, прыпаркаваў аўто на крытым рынку "Гарызонт" і пайшоў па гандлёвых радах, пакінуўшы незапёртымі ўваходныя дзверы. Гэтай ягонай прамашкай адразу скарыстаўся спрактыкаваны невядомы злодзей. Ён забраў з машыны барсетку з пэўнай сумай грошай і дакументамі, а таксама прыхапіў з сабой ляжаўшы ў салоне пакет з прадуктамі харчавання і элітнай гарэлкай. Дарэчы, на працягу толькі аднаго тыдня на Пастаўшчыне было зафіксавана яшчэ 7 розных крадзяжоў. Жанчына прадпрымальнік на гэтым рынку "Гарызонт" засталася без кашалька з грашыма, калі пакінула свой ралет без нагляду ўсяго на некалькі хвілін. Найбольш жа запатрабаваны цяпер тавар для злодзеяў мабільныя тэлефоны. За месяц было зафіксавана 7 такіх фактаў, яшчэ 5 разоў выкрадаліся грошы, а 4 сям'і не далічыліся бензапіл і іншых інструментаў і бытавых прыбораў.

Глыбоцкі раён

# Çàïðà¢ê³ å¢ðàïåéñê³ÿ ³... öýíû

■ Станіслаў Раманчук

**Своеасаблівай візітоўкай райцэнтра і ўпрыгожаннем уезду ў Глыбокае стала адкрытая напрыканцы зімы новая сучасная АЗС РУП "Беларуснафта".**

На яе ўзвядзенне гаспадар заправачнай станцыі Круляўшчызненскі філіял Віцебскаблнафтапрадукта патраціў некалькі гадоў і 6 млрд. рублёў. Падобных неабходных аб'ектаў прыдарожнага сервісу становіцца ўсё болей у краіне, а ў гэтым горадзе з'явілася другая па ліку запраўка на бойкім месцы пры развілцы дарог. Тут акрамя бензіна і саляркі ўладальнікі аўтамабіляў могуць заправіцца і газам. Для кліентаў прадумана ўсё да дробязяў, а таксама тут адкрыўся і магазін для аўтамабілістаў і не толькі. Як і на еўрапейскім кантыненце, з сабой у далейшую дарогу можна людзям прама на трасе купіць самае неабходнае, бо асартымент тавараў налічвае больш 1500 найменняў. Працуе новая АЗС кругласутачна, пры ёй створана 12 новых працоўных месцаў. Дарэчы, услед за запраўкай у Глыбокім падобныя сучасныя аўтазаправачныя станцыі адкрыліся ў абласным цэнтры і Паставах, сёлета такія АЗС з'явяцца і ў Верхнядзвінску, Лёзна. Праўда, дабротам цывілізацыі кіроўцы радаваліся нядоўга, бо неўзабаве зноў у Беларусі ў другі раз сёлета выраслі цэны на паліва.

# Íà áàçå «Íàôòàíà» æàäàþöü ñòâàðûöü õîëäûíã ïà âûòâîð÷àñö³ íàôòàïðàäóêòà¢

■ Павел Мядзведзеў

**Пра гэта 4 сакавіка заявіў журналістам начальнік кіравання ўдасканалення арганізацыйных формаў кіравання Міністэрства эканомікі Беларусі Уладзімір Собаль.**

Па словах чыноўніка, у холдынг на базе ААТ «Нафтан» могуць увайсці ААТ «Гродна Азот», «Малілёўхімвалакно», Завод горнага воску з Мінскай вобласці і іншыя прадпрыемствы, якія выпрабляюць нафтахімічную прадукцыю.

Трохі дзіўна прагучала тлумачэнне Уладзіміра Собаля пра тое, чаму пры гэтым у холдынг не ўвайшоў завод «Палімір».

«Быў варыянт аб'яднаць у гэтым холдынгу ўсю нафтаперапрацоўку, уключаючы Мазырскі нафтаперапрацоўчы завод, нафтаправод «Сяброўства», «Беларусьнафту», але на першую пару. Мы падумалі, што гэтулькі актываў збіраць у адну холдынгавую кампанію будзе няправільна», – цытуе прадстаўніка Мінэканомікі БЕЛТА.

Заява здаецца дзіўным па адным простым чынніку: не так даўно «Палімір» увайшоў у склад ААТ «Нафтан». З-за чаго зараз структурнае падраздзяленне нафтаперапрацоўчага заводу не будзе ўваходзіць у холдынг, які могуць стварыць на яго аснове, – пытанне.

Пры гэтым стварэнне холдынгу з некалькіх дзяржаўных кампаній не павінна адмяняць планаў па прыцягненні інвестыцый. Па меркаванні Уладзіміра Собаля, стварэнне холдынгаў у Беларусі павялічыць цікавасць замежных фундатараў да прыватызацыі, у тым ліку і ў вобласці перапрацоўкі нафты.

Акрамя «нафтавага» ў Беларусі магчыма таксама стварэнне холдынгу па вытворчасці мінеральных угнаенняў.

Шаркоўшчынскі раён

# Ìàëû ðà¸í, äû ¢äàëû

■ Чэслаў Якубовіч

**Істотныя змены ў лепшы бок змянілі апошнім часам райцэнтр Шаркаўшчыну.**

У гэтым гарпасёлку з'явіліся дагледжаныя вуліцы і тратуары, каштанавая алея, зона адпачынку, а летам мястэчка проста буяе ў квецені кветак на клумбах. Хоць раён застаецца пераважна сельгаспадарчым, але тут ганарацца сваімі прамысловымі дасягненнямі і поспехамі мясцовых будаўнікоў. На святочных мерапрыемствах з нагоды 70-годдзя ўтварэння Шаркоўшчынскага раёна ў фае раённага Дома культуры радавалі вока прысутных выставы народных майстроў і мясцовых вырабаў. Цэнтральнае месца было адведзена пладовагародніннам кансервам мясцовага завода, аднаго з лідэраў у сістэме Белспажыўсаюза. Тут сталі выпускаць прысмакі ў сучаснай прыгожай упакоўцы, малой фасоўцы для зручнасці пакупнікоў. Дзякуючы мясцовым працалюбівым людзям у раёне найлепей на Віцебшчыне арганізавана гарачае харчаванне школьнікаў і дзейнасць па падтрымцы асабістых прысядзібных гаспадарак насельніцтва. Штогод у райцэнтры сучасны выгляд набывае хоць бы адзін буйны аб'ект інфраструктуры. Нягледзячы на нізінныя глiністыя землі, удаецца атрымоўваць важкія ўраджаі збожжа, шмат прадаваць мяса і малака. За старанную працу на свяце атрымалі заслужаныя ўзнагароды многія працаўнікі, на ўрачыстасцях парадавалі прысутных шчырымі песнямі народныя артысты Беларусі Ядзвіга Паплаўская і Аляксандр Ціхановіч.

## Íàäâîð'å ¢ Ãëûáîê³ì

www.rp5.ru

| | чацвер 11.03.10 | | | | пятн.12.03.10 | | | суб. 13.03.10 | | нядз.14.03.10 | | пн. 15.03. | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| Мясцовы час | 02:00 | 08:00 | 14:00 | 20:00 | 02:00 | 08:00 | 14:00 | 02:00 | 14:00 | 02:00 | 14:00 | 02:00 | 14:00 |
| Хмарнасць | | | | | | | | | | | | | |
| Ападкі | | | | | | | | | | | - | - - | - - |
| Тэмпература, °C | -5 | -8 | -1 | -7 | -8 | -10 | -2 | -10 | -1 | -8 | -4 | -5 | -3 |
| Ціск, мм | 753 | 751 | 749 | 747 | 744 | 742 | 740 | 737 | 734 | 739 | 743 | 736 | 737 |
| Вільготнасць, % | 79 | 82 | 69 | 76 | 82 | 84 | 71 | 81 | 78 | 85 | 72 | - | - |
| Вецер м/сек | З 4 | Ю-З 5 | Ю-З 5 | Ю 5 | Ю 3 | Ю 4 | Ю-З 3 | Ю 3 | Ю-З 4 | С-З 4 | З 6 | Ю-З 7 | С 6 |

## Äçåíü çà äí¸ì

**Сёлета яшчэ больш пагоршылася фінансавае становішча айчыннай эканомікі і краіны ў цэлым. Толькі ў студзені рэальная зарплата ў Беларусі знізілася на 9,2 % у параўнанні са снежнем 2009 года. Прамысловы гігант "Белтрансгаз" стаў напалову расійскім, а знешні доўг набліжаецца да 20 млрд. USD, краіна па-ранейшаму мае патрэбу ў знешніх пазыках валюты на гэты год у памеры 5 млрд. долараў. З-за пазіцыі Крамля па пастаўках нафты беларусы шмат згубілі валютнай выручкі, а калгасам краіны яшчэ на 10 гадоў прадастаўлені растэрміноўку пагашэння даўгоў.**

### Âàæíåéøûÿ íàâ³íû ñâåòó

***Чылі.*** У выніку магутнага землятрусу загінула больш 700 чылійцаў, жылыя дамы 2 млн. сем'яў атрымалі пашкоджанні альбо былі разбураны, цунамі нанесла ўрон узбярэжжу.

***Расія.*** Камісія Мытнага саюза ў Маскве так і не дамовілася па пытанню адзінай мытнай тэрыторыі, РФ настойвае, што яна можа складацца з асобных мытных зон трох краін.

***ЗША.*** Як пацвердзіў Цэнтр кантролю і прафілактыкі захворванняў ЗША, ад эпідэміі пандэмічнага грыпу з вясны 2009 года пацярпелі ў рознай ступені 57 млн. амерыканцаў.

***Грэцыя.*** Дэфіцыт бюджэта краіны дасягнуў 12,7% ад ВУП, краіне толькі сёлета трэба знайсці 53 млрд. EUR, палітыка эканоміі ўрада выклікала пратэсты насельніцтва.

***Японія.*** Прэзідэнт лідэра сусветнага аўтапрама, канцэрна Toyota Акіо Тайода прызнаў дапушчаныя кампаніяй пралікі ў канструкцыі як некаторых аўтамабіляў розных марак.

***Расія.*** Кіраўнік урада У. Пуцін вырашыў будаваць у Нёманскім раёне Калінінградскай вобласці РФ Балтыйскую АЭС па першаму праекту з удзелам замежнага капіталу.

***Нігер.*** Чацвёрты ваенны пераварот адбыўся з-за нежадання арыштаванага прэзідэнта Танджа Мамаду пакідаць сваю пасаду і паправіць ім Канстытуцыі сваёй беднай краіны.

***Сербія.*** У інтэрв'ю вядучым газетам краіны паслы Францыі і Германіі ад імя Еўрасаюза заклікалі сербаў змірыцца са стратай Косава, населенага албанцамі, каб зблізіцца з ЕС.

***Расія.*** Колькасць беспрацоўных расіян у пачатку года вырасла да 6,8 млн. чалавек, альбо да 9,2 % эканамічна актыўнага насельніцтва, стан расійскай эканомікі кепскі.

***Косава.*** Праз два гады пасля аб'яўлення сваёй незалежнасці гэту краіну прызналі 65 дзяржаў з 192 краін-членаў ААН, узровень жыцця албанцаў па-ранейшаму невысокі.

***Іран.*** Іранскі бок вырашыў выраблять у Беларусі яшчэ два віды аўтамабіляў па праекту зборкі легкавушак "Саманд" да 25 тысяч у год, які дагэтуль быў не вельмі рэнтабельным.

***Расія.*** На новым аўтазаводзе "Солерс" на галоўным канвееры ў Набярэжных Чаўнах штогод пачнуць выпускаць да 500 тыс. легкавых аўто 9 мадэлей групы Fiat класу С і D.

***Балгарыя.*** Пасля перамоў гендырэктар карпарацыі "Расатам" Сяргей Кірыенка заявіў, што яго краіна дасць балгарам да 2 млрд. еўра на будаўніцтва новай АЭС у Белене.

***Францыя.*** Кампанія "Сітраен" выпусціла на беларускі рынак папулярны ў Еўропе хэтчбек малога класа Citroen C3 New з панарамным лабавым шклом і арыгінальным дызайнам.

***Літва.*** Нацыянальны тэатр оперы і балета дамовіўся са сваімі калегамі з Мінска аб арганізацыі сумесных спектакляў, абмене гастролямі, салістамі, стажыровак спецыялістаў.

### Ïàäçå³, ïðà ÿê³ÿ ãàâîðûöü Áåëàðóñü

***Мінск.*** Бутафорскай структурай назваў Мытны саюз кіраўнік аналітычнага цэнтра "Стратэгія" Л. Заіка з-за цэнавай палітыкі "Газпрама" і росту цаны газу ў РБ на 25 %.

***Мінск.*** Пасольства Польшчы ў Беларусі распаўсюдзіла камюніке, у якім абвінавачвала беларускія дзяржаўныя тэлеканалы ў хлусні, канфлікт вакол саюза палякаў працягваецца.

***Гомель.*** Больш паловы прадпрыемстваў горада скарацілі выпуск прадукцыі і скаціліся на рубеж 2007 года, з іх 16 поўнасцю стратныя, праблемы нават ў "Камінтэрна" і "Спартака".

***Мінск.*** З восені мінулага года ў Беларусі назіраецца зніжэнне прадаж моцных алкагольных напіткаў, у пачатку года гарэлкі прадалі на 4,6% меней, чым на той час у 2009 годзе.

***Брэст.*** Першую ў Беларусі геатэрмальную станцыю цёплых падземных водаў з глыбіні болей 1 км запусцілі на цяплічным камбінаце "Бярэсце" для ацяплення сваіх цяпліц.

***Мінск.*** Як і чакалася, кошт праезду ў грамадскім транспарце беларускай сталіцы "падрос" да 700 рублёў за паездку, у абласцях тарыфы перавозак меншыя, не болей 600 рублёў.

***Гродна.*** З-за слабай тэхнічнай умацаванасці летась злачынцы абрабавалі 90 гандлёвых кропак спажыўкааперацыі вобласці, нанеслі ёй матэрыяльны ўрон больш 219 млн. рублёў.

***Мінск.*** З 14 па 30 чэрвеня па графіку сёлета пройдзе цэнтралізаванае тэсціраванне для беларускіх абітурыентаў, не будзе ніякіх змен у правілах паступлення ў ВНУ краіны.

***Гомель.*** Міліцыя затрымала групу з 4-х чалавек ва ўзросце 20-29 гадоў, якія ўсю зіму кралі літыя дыскі з калёсамі ад аўтамабіляў у дварах горада па "заказах" таксістаў.

***Гродна.*** За асаблівыя дасягненні ў падрыхтоўцы высокакваліфікаваных кадраў і ў сувязі з 70-годдзем дзяржуніверсітэту імя Я. Купалы прысуджаны Ганаровы дзяржаўны сцяг РБ.

***Мінск.*** Ва ўсёй сталіцы так і не знайшлося месца для правядзення вечара з нагоды 75-гадовага юбілею "дэструктыўнага" народнага паэта Беларусі Рыгора Барадуліна.

***Бабруйск.*** Паблізу Палаца мастацтваў і гіпермаркета на адным з самых высокіх месц у горадзе пачата будаўніцтва адразу трох 14-ці павярховых дамоў, сучаснай аўтапаркоўкі.

***Мінск.*** У адпаведнасці з новым законам аб СМІ не прайшлі перарэгістрацыю 182 недзяржаўныя выданні, 17 электронных СМІ і 3 агентствы, было зарэгістравана 1305 СМІ.

***Магілёў.*** Найменей у краіне за 2 гады тут было куплена кватэр, амаль удвая менш, чым у Гомелі і Віцебску, у Беларусі летась прадалі амаль 29,5 тыс. кватэр, з іх у Мінску 10581.

***Мінск.*** Прыхільнікі сталічнай каманды "Юнацтва" парадаваліся, што неаднаразовы чэмпіён Беларусі будзе гуляць нарэшце ў прэстыжнай Кантынентальнай хакейнай лізе.

### Ïàíàðàìà ¢íóòðûàáëàñíûõ ïàäçåé

***Віцебск.*** У пачатку лютага складскія запасы па вобласці толькі ў прамысловасці складалі 438 млрд. руб. , непагашаныя бюджэтныя даўгі за 2009 год выраслі яшчэ на 57 мільярдаў.

***Віцебск.*** Сёлета вясной на тэрыторыі вобласці намечана высадзіць больш 3,7 млн. кветак і больш 1 мільёна дрэўцаў, летась было абуладкавана 86 паркаў, бульвараў і сквераў.

***Верхнядзвінск.*** У райцэнтры, размешчаным паміж двумя рэкамі Дзвіна і Дрыса, прагназуецца вельмі вялікае разводдзе, могуць быць падтоплены шэраг дамоў і аб' ектаў.

***Дуброўна.*** Прыватная фірма "Неўскі бераг" з Санкт-Пецярбурга на трасе Мінск-Масква ля райцэнтра выкупіла ўчастак зямлі для ўзвядзення там гасцінічнага комплекса і кафэ.

***Глыбокае.*** Малочнакансервавы камбінат пашырыў геаграфію сваіх паставак у Казахстане, а ў горадзе Актобе адкрыў нават свой гандлёвы дом, растуць аб'ёмы экспарту тушы.

***Гарадок.*** Ад ціску і нагрузкі неачышчанага снегу на плошчы 160 кв. метраў не вытрымаў і рухнуў дах жылога 3-кватэрнага дома ў райцэнтры, на шчасце ніхто з людзей не пацярпеў.

***Віцебск.*** На тэрыторыі вобласці летась адкрыліся яшчэ 9 новых аптэк УП "Фармацыя", з 75 дзеючых сельскіх дзяржаўных аптэк палова стратныя, але яны закрывацца не будуць.

***Орша.*** Стварэмы лагістычны цэнтр на базе аэрадрома авіярамонтнага завода пры дапамозе латвійскіх партнёраў прыняў першыя чартэрныя рэйсы з грузамі з Галандыі.

***Навапалацк.*** У мікрараёне Баравуха прыватны конна-спартыўны цэнтр пачаў навучаць жадаючых асвоіць верхавую язду на конях і паслугі па катанню ў шыкоўнай карэце.

***Віцебск.*** На месцы былога рэстарана "Аўрора" адкрыўся новы ўтульны сучасны "Паўночная сталіца" на 180 пасадачных месцаў з аркестрам па дызайну сталічных фірм.

***Дуброўна.*** Прэстыжны заказ з Францыі на швейную фурнітуру атрымала новае прыватнае прадпрыемства райцэнтра "Антэнея-Прайм" па выпуску манекенаў і наплечнікаў.

***Талачын.*** Уся сям'я былога народнага дэпутата СССР Мікалая Петрушэнкі, яго жонка і сын сталі вылучацца кандыдатамі ў дэпутаты абласнога, раённага і пассавета Коханава.

***Віцебск.*** Старажытны бел-чырвона-белы сцяг памерам 1,5 на 3 метры зноў вывесіў няўлоўны невядомы пасярод ракі Заходняя Дзвіна паміж двума гарадскімі мастамі.

***Шаркаўшчына.*** Маланаселены раён стаў лідэрам на Віцебшчыне па вытворчасці малака і мяса на панадворках вяскоўцаў, калі паўсюдна назіраецца зніжэнне пагалоўя жывёлы.

***Лепель.*** Статус нематэрыяльнай каштоўнасці Беларусі па рашэнню Міністэрства культуры краіны атрымаў мясцовы ўнікальны народны абрад "Жаніцьба Цярэшкі", захаваны тут.

*Служба інфармацыі "ВГ".*

## Лічба нумара

**87%** - такая будзе доля Расіі, як заявіў днямі ў Маскве першы віцэ-прэм'ер расійскага ўрада Ігар Шувалаў, пры размеркаванні імпартных мытных пошлін Мытнага саюза трох краін. Для беларусаў гэта адна з адчувальных пазіцый, бо яшчэ раней суседзі ўжо шакіравалі Беларусь зменай правіл гульні пры пастаўках нафты, з-за чаго нафтавая валютная выручка ( каля 30 % даходаў нашай краіны ) упала сёлета амаль у 3 разы. Гэта міжнародная арганізацыя толкам яшчэ не пачала працаваць, як для нас дабавіліся новыя непрыемнасці.

На працягу некалькіх месяцаў эксперты вялі напружаныя перамовы наконт узгаднення ўвазных мытных пошлін паміж дзяржавамі-членамі саюза РФ, РБ і Казахстанам. Спачатку дамовіліся размяркоўваць пошліны паміж адпаведна дзяржаўнымі бюджэтамі ў прапорцыі 86,5 %, 5,0 % і 8,5 % для казахаў. Але беларускі бок заявіў аб жаданні павялічыць сваю долю на 0,3 % і нічога не дабіўся. Зато расіяне засталіся пры сваіх інтарэсах і дабавілі сабе яшчэ 0,5 працэнта. Як было дамоўлена ў расійскай сталіцы, астатнія 13 % падзеляць паміж сабой Беларусь і Казахстан. Для іх будзе прымяняцца змешаны прынцып з улікам аб'ёмаў імпарту і статыстыкі ввазу тавараў.

Расія, якая дамінуе ў гэтым саюзе, пайшла яшчэ далей і настойвае, што адзіная мытная тэрыторыя можа складацца з асобных мытных тэрыторый трох краін, па сутнасці са сваімі парадкамі і мытнымі рэжымамі. Дык дзеля чаго было стварэць гэты Мытны саюз (МС), калі згоды няма паміж партнёрамі з самага пачатку, а рускія настойваюць на прадастаўленні ім права ўвядзення экспартных пошлін унутры МС. Перамовы ў расійскай сталіцы працягвалі доўга і напружана , беларусы даводзілі, што саюзнікі з боку РФ парушаюць міжнародныя дагаворы. Праўда, пытанне мытных пошлін на нафту наша дэлегацыя не ўзнімала.

Цяпер застаецца спадзявацца, што супярэчнасці могуць быць вырашаны на больш высокім узроўні. Нават "падкаванаму" першакласніку павінна быць зразумела, што сутнасць любых саюзаў, пачынаючы з сямейных, гэта поўнае паразуменне яго ўдзельнікаў. Мытны саюз найперш бяспошлінные перамяшчэнне ўсіх тавараў праз граніцы яго ўдзельнікаў, адзіныя мытныя пошліны па перыметры граніц. У дадзеным выпадку нічога падобнага няма, наадварот, з боку расіян такі вось "падарунак" у завяршальны год пяцігодкі.

У такіх умовах гульні вялікая верагоднасць, што напружаныя планы 2010 года, узровень зарплаты 500 USD могуць быць з трэскам праваленыя, ды яшчэ напярэдадні прэзідэнцкіх выбараў. Пры гэтым з 1 ліпеня, "радуйцеся" суайчыннікі, нам гарантавана рэзкае павышэнне ўвазных пошлін на аўтамабілі да ўзроўню расійскіх. Іншамаркі адразу падаражэюць і стануць недаступныя для многіх беларусаў, пра страты дзяржбюджэту краіны ад нафтавых пошлін мы ўжо ўзгадвалі. Горш таго, Крэмль прапрацоўвае варыянты адмены для Беларусі ільгот на газ услед за нафтай на фоне таго, што складскія запасы ў нас дасягаюць 6 трлн. рублёў ( яшчэ ў межах 2 і болей млрд. долараў).

Як ні круці, а нявырашаных пытанняў і праблем толькі прыбаўляецца, а крызіс і не думае заканчвацца. У выніку летась, да прыкладу, толькі Віцебшчына вымушана была скараціць свае запланаваныя бюджэтныя расходы амаль на 19 %, да механізму секвестра бюджэту прыбегла і ўся Беларусь. У дадатак Крэмль стаіць на сваім і заяўляе, што да 2012 года не збіраецца вяртацца да пытання пасляблення па пастаўках нафты. Беларусам жа ўжо праз 2 гады прыйдзецца аддаваць плацяжы па раней набраных даўгах.

Калі сітуацыя будзе развівацца па цяперашняму сцэнарыю, дыктуемаму з крамлёўскіх кабінетаў, то МС стане нагадваць вядомую байку пра лебедзя, рака і шчупака, а гэта інтэграцыйная канструкцыя будзе хістацца, а потым і ўвогуле можа развалiцца. Вядома, не трэба думаць пра дрэнное. Нам бы са сваімі эканамічнымі праблемамі разабрацца, зменшыць хаця б адмоўнае сальда знешняга гандлю краіны зборачнага цэху былога СССР. Але калі аснову экспартнага патэнцыялу Беларусі зараз складаюць нафтапрадукты і калійныя ўгнаенні, дасягнуць дастойнага ўзроўню жыцця проста немагчыма без рэформ.

# Шоў – конкурс “Надзвычайная сямёрка” у Падсвіллі


Артэміда

■ Я. Самсонаў

**Можа толькі пашкадаваць і пазайдросціць БТ ды і іншыя тэлевізійныя каналы, што не надарылася пабываць 7 сакавіка на грандыёзным свяце, вартым перайманьня, на Падсвільскім міжпасялковым конкурсе калектыўнай творчасці “Надзвычайная сямёрка”, які ладзіўся ў мясцовым Доме культуры.**

Як адзначыў адзін з вядучых вышэйзгаданага цудоўнага шоў-канцэрта, гэта – самая значная падзея пасля зімовых Алімпійскіх гульняў у Ванкуверы і ён, зрэшты, меў рацыю. Сведкі таму – звыш паўтысячная армія мясцовых гледачоў, якія з нецярпеннем чакалі гэтага мерапрыемства і ледзь месціліся ва ўтульнай і камфортнай зале. За званне пераможцы ў трохбор’і конкурса “Надзвычайная сямёрка” змагалася шэсць таленавітых, яскравых і цікавых каманд гарадскога пасёлка: “Джэнтэльмены удачы” (прадпрымальнікі), “Маленькая краіна” (дзіцячы садок), “Вясёлая карусель” (вінзавод), «Артэміда» (СШ), “Гарачыя сэрцы” (Пасвільская раённая бальніца) і “Перабудова” (МПМК-48).

Гледачы як бы самі з’яўляліся ўдзельнікамі, часцінай зваротнай сувязі таленту артыстаў. Азартныя балельшчыкі гуртоў падтрымкі, не хаваючы эмоцый, шчыра падтрымлівалі не толькі сваю каманду, але не шкадавалі апладысментаў для каманд супернікаў. Скажу шчыра, такое відовішча я бачыў упершыню. Было такое прадчуванне, што трапіў у адну творчую, дружную сям’ю, і гэта быў шчыры падарунак для жанчын з нагоды Дня 8 Сакавіка. Шчодрыя і кемлівыя “Прадпрымальнікі” пад час аднаго са сваіх выступаў засыпалі залу адметнымі паветранымі шарыкамі. Здаецца дробязь – а як уздымае настрой і яднае людзей!

Выступ кожнай каманды пачынаўся з візітнай карткі – невялічкага відэароліка. Аб накале спаборніцтваў і амаль прафесійным майстэрстве самадзейных артыстаў сведчыць той факт, што ў першым відзе трохбор’я – мастацкім выкананні песні пра каханне – кампетэнтнае журы аднагалосна ацаніла на дзесяць балаў выступ кожнай каманды. Толькі ў другім відзе конкурснай праграммы – пастаноўка дзіцячай казкі – з’явіліся першыя лідэры. Усе кропкі над “і” расставіў трэці від конкурсу – надзычайны арыгінальны нумар каманды. У складаным становішчы апынулася журы. Конкурс ёсць конкурс. Пераможца павінен быць. І вось пад гучныя апладысменты балельшчыкаў-гледачоў аб’яўлены ўладальнікі дыпломаў трохгадзіннага захапляючага відовішча ў наступных намінацыях:

– За арыгінальнасць выканання – “Перабудова”.

– За яскравасць і эпатажнасць – “Артэміда”.

– За смеласць і вытрымку –“Вясёлая карусель”.

– За лепшае музычнае афармленне – “Маленькая краіна”.

– За іскрамётны гумар – “Джэнтэльмены ўдачы”.

Пераможцам конкурсу з перавагай усяго ў дзве дзесятых бала прызнаная каманда “Гарачыя сэрцы”.

Як адзначыў адзін з аўтарытэтных чальцоў журы Мар’ян Мечыслававіч Місевіч пасля заканчэння канцэрта-конкурса, па ўзроўню артыстычнага таленту кожная з каманд утульна адчувала б сябе на падмостках раённага і нават абласнога маштабу. Барацьба была ўпартай і захапляючай – бал у бал. Прайграўшых няма. Кожная з каманд павінна лічыць сябе пераможцай і будзе мець рацыю.

– Тамара Уладзіміраўна, як вам удаецца “адкапаць” столькі самадзейных мастацкіх талентаў і ажыццявіць такое відатнае відовішча? – са здзіўленнем звярнуўся аўтар гэтых радкоў да “генератара” ідэй і задумак, дырэктара Падсвільскага Дома культуры спадарыні Спяцанавай.

– У нас шмат таленавітых людзей. Некаторыя раней займаліся ў разнастайных гуртках, некаторыя прыйшлі паспрабаваць, і ў іх атрымалася. А заслуга ў гэтым не мая, а ўсяго нашага творчага калектыву. Мы кожны год да 8 Сакавіка ажыццяўляем нейкі праект. Убачылі нешта падобнае на тэлебачанні, узважылі і вырашылі, што ў нас павінна атрымацца. Працоўныя калектывы адклікнуліся на прапанову. Мясцовая ўлада і раённае кіраўніцтва падтрымала. За кожным калектывам быў замацаваны наш адказны творчы спецыяліст. І вось атрымалася. Вельмі ўдзячна ўдзельнікам, што не шкадуючы вольнага часу, прыходзілі на рэпетыцыі, за іх цярпенне і вытрымку.

– Вашы надзеі спраўдзіліся ў поўнай меры?

– Сапраўды так. Гэта вялікая аддушына для людзей. Мы атрымліваем вялікую асалоду ад сваёй працы, бачачы, што мы патрэбныя людзям і прыносім ім радасць і самае галоўнае, што ў гэтым праекце мы адкрылі новы творчы патэнцыял.

Напрыканцы нельга не дадаць некалькі радкоў да сціплых слоў выдатнага кіраўніка і арганізатара высокай культуры, абаяльнай і шчырай Тамары Спяцанавай. Яе дасягненні ў прафесійнай дзейнасці, асабісты ўклад у прапаганду і развіццё нацыянальнай культуры, адраджэння і захаванне культурнай спадчыны Глыбоцкага краю, адзначаны на самым высокім узроўні нашай краіны. Яна ўладальніца вялікага стоса разнастайных Ганаровых грамат і Дыпломаў, атрыманых на шматлікіх фестывалях і конкурсах. Шчырасцю і дабрынёй сваёй нераўнадушнай душы яна прываблівае людзей. Прыхінуўшыя да яе адкрываюць у сябе шмат цікавага, раней не зведанага, спазнаюць сапраўдныя каштоўнасці ў жыцці.


Гарачыя сэрцы


Джэнтэльмены ўдачы


Журы і ўдзельнікі на сцэне

■ **Іван Лепешаў,**
*прафесар ГрДУ імя Янкі Купалы.*

# Кніга пра таямніцы нашай гісторыі

Не так даўно ў мінскім выдавецтве «ФУАинформ» выйшла вялікая (памерам 560 старонак) кніга Вадзіма Дзеружынскага «Тайны беларуской истории». У ёй разглядаюцца спрэчныя і малавядомыя аспекты ў гісторыі Вялікага Княства Літоўскага і Беларусі. Гэта, па сутнасці, цікавы, арыгінальны і абгрунтаваны аповед пра нашу гісторыю на працягу тысячы гадоў. У анатацыі да кнігі гаворыцца: «Многія беларусы не ведаюць, што наш народ да 1840 года называўся ліцвінамі, што ніякай «Беларусі» ў сярэдзіне вякі не існавала, а была Літва, да якой сучасная Рэспубліка Летува не мае адносін. Вялікае Княства Літоўскае стварыў прускі кароль Міндоўг, сама ж Літва з'явілася на тэрыторыі Заходняй Беларусі каля 1220 года, з міграцыяй сюды з Захаду палабскіх славян. Беларусы – не «ўсходнія славяне», а славянізаваныя заходнія балты. Аб гэтым і многім іншым, цікавым і важным для нацыянальнай свядомасці сучаснага беларуса, расказваецца ў кнізе, разлічанай на шырокае кола чытачоў».

На с. 24 чытаем: «Узяцца за гэту кнігу мяне прымусіла ўсеагульнае няведанне беларусамі сваей уласнай гісторыі, што з'яўляецца агромністай перашкодай для трыумфу нацыянальнай свядомасці. Менавіта па гэтай прычыне Беларусь сёння – адзіная краіна на тэрыторыі былога СССР, дзе адкінуты свае гістарычныя нацыянальныя сімвалы (бел-чырвона-белы сцяг і полацкі праваслаўны герб «Пагоня»), нацыянальная назва парламента (Рада) і канстытуцыі (Статут), нацыянальная назва грашовых адзінак (талер і грош). Ва ўяўленнях большасці грамадзян Беларусі наша краіна з'яўляецца «фантомам», пазбаўленым свайго мінулага. У савецкі ж час паўсюдна ўбівалі ў галовы людзям выдумку пра тое, што Беларусь – «нарадзілася ў СССР» і да ўступлення ў Савецкі Саюз ніякай сваеʼй гісторыі не мела».

Аўтар імкнецца ачысціць менталітэт беларусаў ад бязглуздых міфаў, навязаных царызмам, захаваных і развітых савецкімі ідэолагамі. Вось некаторыя з іх.

**1.** Міф аб тым, што «беларусы, украінцы і руская не проста роднасныя, але і брацкія народы». На самай справе ліцвіны-беларусы роднасныя толькі з мазурамі Польшчы і лужыцкімі сорбамі. Беларусы – заходнія балты, а руская і ўсходня ўкраінцы – славінізаваныя фіны. Гэта даказана аналізам генафонду народаў, а таксама параўнаннем дадзеных антрапалогіі, этнаграфіі, псіхалогіі.

**2.** Міф аб тым, што беларусы і ўкраінцы з'яўляюцца (разам з рускімі) «усходнімі славянамі» і паходзяць ад апошніх. У рэальнасці «ўсходнія славяне» не існавалі. Гэта палітычная выдумка царскіх ідэолагаў абвергнута навукай. Пры гэтым аўтар спасылаецца на даследаванне рускага акадэміка В. Л. Яніна, апублікаванае ў часопісе «Наука и жизнь», дзе вучоны даказвае, што ніколі не было агульнага для рускіх, украінцаў і беларусаў «древнерусского языка». Дададзім, што шавіністычная канцэпцыя трохмоўнай калыскі, трох плямёнаў адзінага народа – вялікарусаў, маларосаў і беларусаў, канцэпцыя аб развіцці трох моў з адной калыскі – старажытнарускай мовы і – набыла ў рускім мовазнаўстве, як пісаў прафесар Л.М. Шакун, «усеагульнае прызнанне; у савецкія часы ёй быў нададзены статус афіцыйнай дактрыны, улады адгарадзілі яе ад усякай крытыкі, бо яна як найлепей адпавядала іх імкненню сцвердзіць «адвечнае адзінства» ўсходніх славянаў, зліць «ізноў» іх мовы ў адзіную – рускую мову». Між іншым, украінскія палітычныя дзеячы, пісьменнікі, мовазнаўцы рашуча адмежаваліся ад гэтай не столькі навуковай, колькі палітычнай калыскавай канцэпцыі; напрыклад, былы прэзідэнт Украіны Кучма выдаў кнігу «Украіна – не Расія», а вядомы ўкраінскі пісьменнік Барыс Алейнік задае такое рытарычнае пытанне: «Як маглі сябе ўсведамляць расіянамі спаконвечныя ўкраінцы, якія здаўна жылі на берагах Дняпра, больш за сем стагоддзяў да нараджэння Масквы, заснаванай кіеўскім князем, і якая потым ужо стала сталіцаю Расійскай дзяржавы?» У многіх жа беларускіх вышэйшых навучальных установах і цяпер пры выкладанні так званай «гістарычнай граматыкі» па-ранейшаму пералічваюць і характарызуюць моўныя асаблівасці, што нібыта ідуць з калыскі трох моў.




**3.** Міф аб тым, што «беларусы вельмі падобныя па мове, культуры і гісторыі да рускіх». В. Дзеружынскі называе гэта «проста абсурдам». Канешне, сучасная беларуская мова, у значнай ступені зрусіфікаваная за савецкія часы, мае падабенства з рускай, але першапачаткова, генетычна яна куды больш блізкая да лужыцкай, украінскай і мазурскага дыялекту польскай мовы. Наша культура, сцвярджае аўтар, не мае нічога агульнага з рускай, а «агульная гісторыя» – гэта пастаянныя войны з Масковіяй. А на стар. 372 пералічваюцца гэтыя войны паміж Масковіяй «за сабіранне рускіх земель» і ВКЛ: 1) у 1366-1372 гг.; 2) у 1406-1408 гг.; 3) у 1445-1449 гг.; 4) у 1492 - 1494 гг.; 5) у 1500 - 1503 гг.; 6) у 1507-1508 гг.; 7) у 1512-1522 гг.; 8) у 1534-1537 гг.; 9) у 1563-1582 гг.; 10) у 1609-1618 гг.; 11) у 1632-1634 гг.; 12) у 1654-1667 гг. І дадаецца: «Як бачым, за 300 каляндарных гадоў адбывалася дванаццаць войнаў, што заняло ў суме 72 гады!»

**4.** Міф аб тым, што «ў беларусаў і рускіх здаўна агульная праваслаўная рэлігія». Але гэта – хлусня. Добрая трацына беларусаў была каталікамі, а астатнія ж належалі да грэчаскай праваслаўнай веры Кіева, але не Масквы. З 1596 года ліцвіны-беларусы сталі ўніятамі (разам з русінамі-украінцамі), і толькі ў 1839 годзе (праз 243 гады) указам цара іх гвалтоўна «перавялі» ў царкву Масквы. І было гэта зроблена ў рамках праграмы рэлігійнага і этнічнага генацыду.

**5.** Міф аб тым, што «літоўцы ў ВКЛ прыгняталі беларусаў», а маскавіты (пераважна мардва і татары) «ратавалі іх ад прыгнёту жамойтаў», прычым «беларускі народ заўсёды цягнуўся да аб'яднання з рускім народам», г.зн. з мардвой Масковіі і татарамі Арды. Аўтар называе гэта «самай бязглуздай, недарэчнай выдумкай». Поўная назва нашай дзяржавы мінулых эпох – Вялікае Княства Літоўскае, Рускае і Жамойцкае. Дзяржава з'ядноўвала тры яе часткі: Літву (адпавядае цяперашняй Беларусі), Русь (Украіну) і Жамойцію (Летуву). Карэнныя жыхары Жамойціі называлі сябе жмудзінамі і аўкштайтамі. Тэрытарыяльна яны займалі нязначную частку ВКЛ. У іх ніколі не было сваіх князёў. Шляхта Жамойціі, паводле «Перапісу войска ВКЛ 1528 года», складалася з 80% ліцвінаў (беларусаў) і 20 % жамойтаў. Да XVI ст. у жамойтаў не было пісьменнасці. Статуты ВКЛ да гэтага часу не перакладзены на летувіскую мову. Дык як жа ў такім разе можна гаварыць, што ў ВКЛ правілі, кіравалі, панавалі жамойты ды яшчэ «прыгняталі беларусаў»?!

Аналагічны міф бытуе і ў дачыненні да палякаў. Сцвярджаецца, што «у Рэчы Паспалітай беларусы знемагаліся ад польскага прыгнёту» і таксама чакалі хутчэйшага вызвалення рускімі. На самай жа справе ніколі не было ніякіх неладоў паміж беларусамі і палякамі. Два народы жылі вякамі ў адной краіне без усякіх узброеных канфліктаў. А ініцыятарамі стварэння Рэчы Паспалітай былі не палякі, а ліцвіны, бо бачылі ў гэтым адзіны сродак захаваць сваю дзяржаўнасць ад яе знішчэння Масковіяй (гэтак яна называлася да XVI ст., а афіцыйна Масковія перайменаваная ў Расію толькі ў 1721 годзе. Вацлаў Ластоўскі ў знакамітай «Кароткай гісторыі Беларусі» (Вільня, 1910) піша, што нашы продкі дзесяць разоў (з 1401 года) спрабавалі схіліць Польшчу да стварэння саюзнай дзяржавы і дабіліся гэтага толькі на адзінаццаты раз у 1569 годзе.

В. Дзеружынскі адзначае: «Не палякі, а Іван IV «Жахлівы» пры захопе Полацка ў 1563 годзе знішчыў усё праваслаўнае духавенства горада і большасць жыхароў. Не палякі, а маскоўскі цар Аляксей Міхайлавіч (яго ў Расіі афіцыйна называюць «тишайшим» і «добрейшим») у вайне 1654-1667 гг. знішчаў нашых продкаў па рэлігійнай прыкмеце. Па яго загадах нашых уніятаў, якія не жадалі прымаць веру Масквы, спальвалі ў храмах усіх гуртам, аж да грудных дзяцей. Па загаду цара выразалі насельніцтва цэлых гарадоў, якія спачатку пад пагрозай расправы прымалі маскоўскую веру, а пасля адмаўляліся ад яе. Так было, напрыклад, у Берасці. Нічога падобнага палякі ў нас ніколі не рабілі. І гэта цар Пётр І, а не палякі, учыніў разню духавенства ў полацкай Сафіі, а пасля ўзарваў наш старажытны храм. І не палякі, а рускі цар Мікалай 1 забараніў нам звяртацца да Бога на нашай мове, загадаў спальваць нашы Біблії, перакладзеныя яшчэ Францішкам Скарынам. І ён жа забараніў нашу назву «Літва», а яго сын – назву «Белоруссия».

Аўтар аб'ектыўна ацэньваючы гістарычныя факты, падзеі, зазначае, што



*Заканчэнне на стар. 11*

# У Беларусі стартавала агульнаеўрапейская кампанія па назіранні за птушкамі «Жывая вясна»

У Беларусі стартавала агульнаеўрапейская кампанія па назіранні за птушкамі «Жывая вясна». Яе арганізатарам у Беларусі выступае грамадская арганізацыя «Ахова птушак Бацькаўшчыны» (АПБ).

Як паведаміў БелаПАН спецыяліст па экалагічнай адукацыі АПБ Руслан Шайкін, мэта акцыі прыцягнуць людзей да назірання за птушкамі. У яе рамках усім жадаючым прапануецца паназіраць за чатырма відамі птушак, якія прылятаюць у Беларусь вясной, белым бусламі, вясковай ластаўкай, зязюляй, чорным стрыжом, а затым унесці інфармацыю аб месцазнаходжанні птушак на сайце www.springalive.net. На сайце прадстаўлена карта Еўропы, дзе будуць адлюстроўвацца вынікі назірання за птушкамі жыхароў 37 краін удзельніц акцыі. Па меры паступлення інфармацыі кожная краіна будзе набываць на карце Еўропы больш насычаны колер, які сімвалізуе наступленне «жывой вясны». Як адзначыў Шайкін, на сайце таксама размешчана інфармацыя пра міграцыі птушак, іх асаблівасці, метадычныя матэрыялы для педагогаў.

Паводле слоў спецыяліста, жадаючыя паўдзельнічаць у назіраннях за птушкамі могуць таксама паведаміць свае звесткі па тэлефоне 8 (017) 263-06-13 або адправіць SMS на нумар 0841. Як паведаміў Шайкін, першая птушка ў межах назіранняў у Беларусі белы бусел была зарэгістраваная ў Брэсцкай вобласці першымі днямі сакавіка.

Кампанія «Жывая вясна» праводзіцца ўжо пяты раз. У 2009 годзе Беларусь па колькасці назіранняў 3 тыс. 21 стала шостай краінай з 37 дзяржаўудзельніц. Больш за ўсё назіранняў за птушкамі 37 тыс. 132 было зарэгістравана ў Расіі, затым ідуць Італія, Ірландыя, Латвія і Польшча.

Як лічыць Шайкін, высокая актыўнасць беларускага насельніцтва ў назіранні за птушкамі тлумачыцца падтрымкай АПБ, якая мае аддзяленні ў рэгіёнах краіны. Галоўнымі ўдзельнікамі назіранняў традыцыйна з'яўляюцца педагогі і школьнікі.

*Анастасія Янушэўская, БелаПАН.*

# Піць піва забаранілі і ў лесе

**Зараспіццёспіртнога ў лясных масівах, на паплавах, на берагах вадаёмаў (пляжах) і ў іншых такіх месцах, што знаходзяцца па-за населенымі пунктамі, у шэрагу выпадкаў пагражае штраф. Пра гэта паведаміла прэс-афіцэр УУС Мінаблвыканкама Марына Эверсман.**

Ва УУС растлумачылі, што лясы і паплавы могуць лічыцца грамадскімі месцамі, калі група адпачывальнікаў ужывае спіртныя напоі на вачах у іншых.

Калі ж кампанія аб'ектыўна аддалена ад іншых грамадзян і распіццё алкаголю адкрыта не дэманструецца, то склад адміністрацыйнага правапарушэння адсутнічае. Таксама ў гэтай сітуацыі не трэба забываць аб адказнасці за парушэнне норм экалагічнай бяспекі навакольнага асяроддзя і парадку прыродакарыстання, а таксама пажарнай бяспекі.

Акрамя таго, ва УУС растлумачылі, што распіццё спіртнога не дапускаецца на прыдарожных стаянках загарадных трас, калі, зразумела, там няма месца, якое спецыяльна для гэтага прызначана. Гэта можа быць, напрыклад, кафэ або невялікі рэстаран. Калі ж грамадзяне з'едуць на абочыну і, згодна з народнай традыцыяй, арганізуюць застолле на капоце, міліцыя таксама можа аштрафаваць іх. Абочына — грамадскае месца, бо вадзіцелі і пасажыры, якія праязджаюць міма, будуць бачыць, што людзі распіваюць спіртное.

Ва УУС адзначылі, што такія заканадаўчыя змяненні не прызначаны ўскладніць жыццё грамадзянам. «Рэформа прадыктавана хутчэй тымі абставінамі, што менавіта дэманстратыўнае, публічнае распіццё спіртнога стала літаральна культывавацца насельніцтвам», — падкрэслілі ў міліцыі. На думку праваахоўнікаў, гэта становіцца мадэллю паводзін для моладзі і падлеткаў.

Паняцце даросласці стала асацыявацца з далучэннем да амаральных або проста абуральных паводзін.

П'яныя могуць прыставаць да іншых грамадзян, абражаць чалавечую годнасць, страчваюць сорам і г.д. Тым, хто не хоча гэтага зразумець, міліцыя нагадвае, што за распіццё алкагольных, слабаалкагольных напіткаў або піва ў грамадскіх месцах, калі яны не прызначаны для гэтага, пагражае штраф у памеры да васьмі базавых велічынь (да Br280 тыс.). Такая ж санкцыя накладаецца за з'яўленне ў грамадскіх месцах у п'яным выглядзе, а за знаходжанне на рабочым месцы ў рабочы час у стане алкагольнага, наркатычнага або таксічнага ап'янення — да дзесяці базавых велічынь (да Br350 тыс.).

*Паводле БелТА*



# Народ з жахам чакае прыходу вясны – 2010

*Архіўныя здымкі паводкі 1931 г. у Дзісне*







# ТЭЛЕТЫДЗЕНЬ "Вольнага Глыбокага"

15 – 21 сакавіка 2010 г.



## ПАНЯДЗЕЛАК, 15 сакавіка





**06.00, 07.00, 08.00, 09.00, 12.00, 13.00, 14.00, 15.00, 16.00, 17.00, 18.00, 19.00, 23.55** Новости.
**06.05, 07.10, 08.15** «Доброе утро, Беларусь!».
**07.05, 08.10** Зона Х.
**07.30, 08.25, 11.50** Деловая жизнь.
**08.30** В мире моторов.
**09.05** Nota Bene.
**09.35** «ЗВЕЗДНЫЕ ТАНЦЫ».
**11.00 «Не родись красивой»**
**12.10 «Руди – гончий поросенок»**
**14.05** Женское ток-шоу «Жизнь как жизнь». «Путешествия для меня роскошь».
**15.15, 19.15** Новости региона.
**15.25** Культурные люди.
**15.55** Здоровье.
**16.20** Премьера. **«Огни большого города»** (Россия). 1-я серия.
**17.20 «Не родись красивой»**
**18.25** Видеофильм АТН «Ольга Смоляк» цикла«Легко сказать».
**18.50, 00.25** «Зона Х».
**19.25** «КЕНО».
**19.30** «Арена».
**19.55** Ток-шоу «Ответный ход».
**21.00** Панорама.
**21.55** Специальный репортаж АТН «Знайсці кнігу».
**22.05 «Доктор Хаус. Четвертый сезон»**
**23.05 «Герои-3»**
**00.00** «Эпоха». «Итоги 60-го Берлинского кинофестиваля».Ф1й.
**00.30** День спорта.





**06.00, 06.30, 07.00, 07.30, 08.00, 08.30, 09.00** Наши новости.
**06.05** «Наше утро».
**09.05** Контуры.
**10.10** «Дыхание планеты».
**10.45** «Великолепная пятерка».
**11.00** Наши новости.
**11.05** Новости спорта.
**11.10** «Великолепная пятерка».
**12.00** «Малахов+».
**13.00** Наши новости.
**13.05** Новости спорта.
**13.10** «Понять. Простить».
**13.40** «Модныйприговор».
**14.45** «Контрольная закупка».
**15.15 «Виола Тараканова. В мире преступных страстей».**
**16.00** Наши новости.
**16.10** Новости спорта.
**16.15** Впервые в цвете. **«Веселые ребята».**
**18.00** Наши новости.
**18.15** Новости спорта.
**18.20 «Моя прекрасная няня»**. После свадьбы.
**19.00** Жди меня.
**20.00** Время.
**20.30** Наши новости.
**21.00** Новости спорта.
**21.05** Ток-шоу «Выбор».



**22.00 «Остаться в живых».**
**23.00** Наши новости.
**23.15** Новости спорта.
**23.20**«Преступлениявека».
**23.50 «Женаты... с детьми».**
**00.35** Наши новости.
**00.50-01.00** Новости спорта.





**07.00** ЛАДное утро.
**08.00 «Универ»** (Россия).
**08.30** Час суда. Дела семейные.
**09.30** В этот день.
**09.35** Сериал **«Любовь как любовь»**
**10.40 «Играй для меня»**
**12.10** «Пра мастацтва».
**12.35** Школа ремонта.
**13.30** Премьера. Док.фильм «Время патриотов»
**14.00** Внеклассный час.
**14.15** Бухта капитанов.
**14.55** Телебарометр.
**15.15** Детективный сериал **«Комиссар Мегрэ»**
**16.20** Час суда. Дела семейные.
**17.20** Простые упражн.
**18.00** Сериал **«Любовь как любовь»**
**19.00 «Люди Шпака»** 1 с.
**20.05 «Универ»** (Россия).
**20.50** Калыханка.
**21.05** Белорусское времечко.
**22.10** Футбол. Чемпионат Англии. Обзор тура.
**23.05** Хоккей. Формула игры.
**23.35 «Комиссар Мегрэ»**





**06.00** «24 часа».
**06.10** «Минщина».
**06.20** «Утро. Студия хорошего настроения».
**07.30** «24 часа».
**07.40** «СТВ-спорт».
**07.45** «Утро.Студия хорошего настроения».
**08.30** «Неделя».
**09.35** «Большой завтрак».
**10.05** «Пять историй».
**10.30** «24 часа».
**10.40** «Ангел-хранитель».
**11.40** «Званый ужин».
**12.35 «Бывшая»**. Сериал.
**13.30** «24 часа».



**13.50** «Звездный ринг».
**15.00** «Большой город».
**15.40** «Горячий лед».
**16.05** «Культурная жизнь»
**16.30** «24 часа».
**16.50** «Япутешественник».
**17.10** «Наше дело».
**17.20** «Минщина».
**17.30** «Званый ужин».
**18.30 «Бывшая»**. Сериал.
**19.30** «24 часа».
**20.00** «Столичные подробности».
**20.10** «СТВ-спорт».
**20.20** «Добрый вечер, малыш».
**20.40 «СЛУЧАЙНАЯ ЗАПИСЬ».**
**22.30** «24 часа».
**22.55** «Столичн.футбол».
**23.25** «Кино»: **«P.S. Я ЛЮБЛЮ ТЕБЯ».**

### БЕЛСАТ tv BELSAT

**17:00** Аб'ектыў
**17:05** Еўропа сёння
**17:35 «Арол: крымінальная сага»**, серыял:
**18:35** Госць «Белсату»
**18:55** Гісторыя пад знакам Пагоні
**19:05** Прэс-экспрэс
**19:20** Англійская мова з Ліпі і Мэсі
**19:25 «Прыгоды Ціўкі»**, мультсерыял
**19:45** Моўнік
**19:50** ПраСвет
**20:05** «Курапаты – шлях сумлення»,
**20:35** Прыватная калекцыя
**21:00** Аб'ектыў
**21:20 «За жменю даляраў»**
**22:55** Аб'ектыў

